# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 21 траўня 1930 г. №. 19


## БЕЛАРУСЫ Ашмяншчыны, Лідчыны, Вялейшчыны, Валожыншчыны ды Шчучынскага і Маладэчанскага павету!

Грамадой ідзеце на выбары **25 мая** і, як адзін галасуйце за

**адзіны запраўдны беларускі сьпісак**

**Блёку Беларускіх Сялян і Работнікау №: 45**

## Ад Рэдакцыі.

Агульны гаспадарчы крызіс, які сяньня перажывае Заходняя Беларусь, адбіўся вельмі блага на аплатнай здольнасці беларускага сялянства. У выніку гэтага крызісу, які асабліва цяжкім зьяўляецца ў паветах, цярпеўшых у працягу двух гадоў узапар ад неўраджаю, селянін наш ня толькі ня можа здаволіваць сваіх элементарных культурных патрэб, але прост ня мае чаго есьці.

Найцяжэйшыя — апошнія месяцы перад зборам новага ўраджаю. І якраз цяпер гэта адчувае на сабе вельмі балюча наша газэта.

Ад самага пачатку мы абаперлі нашае выдавецтва не на дапамозе таго ці іншага „можнага пратэктара“, а *выключна на сілах маламожнага беларускага радыкальнага грамадзянства.* Толькі пры дармовай працы ўсіх учасьнікаў нашае газэты і дабрахвотных пасільных ахвярах гэтага грамядзянства — з аднаго боку, ды пры шырокім падтрыманьні сялянства (шляхам прысылкі падпіскі) — з другога боку, мы маглі выдаваць „Наперад“ у працягу паўгоду, ня гледзячы на вострую барацьбу з ім паклоньнікаў „грашавітых“ орыентацыяў на Варшаву, Маскву, Коўну. Але за апошні месяць—замест наплываўшае дагэтуль акуратна падпіскі — мы атрымліваем ад нашых чытачоў сотні пісем з просьбай пачакаць да восені і слаць газэту *напавер.*

Мы ня маем ніякае прычыны сумлявацца ў тым, што ўвосені ўсе нашыя даўжнікі свой доўг сумленна вернуць. На-жаль, ані друкарня, ані паперня *такога даўгога крэдыту нам не даюць:* за друк і паперу трэба разлічацца зараз.

Верныя нашаму прынцыпу: *апірацца толькі на ўласныя, беларускія сілы,* мы ня лічым магчымым шукаць чужацкага падтрыманьня: за яго прышлося-б даваць тыя ці іншыя *палітычны вэксалі,* што і робяць, не задумываючыся, нашы палітычныя праціўнікі. Каб захаваць сваю поўную палітычную незалежнасьць, мы і пастанавілі *дачасу прыпыніць друк „Напераду“,* каб пры першай магчымасьці, як толькі нашае радыкальнае грамадзянства будзе ў сілах, а вёска ізноў здолее выпаўняць свае забавязаньні перад гезэтай і аплачываць належнасьць за яе, *ўзнавіць „Наперад“.*

Разумеем, што прыпыненьне выхаду газэты, хоць і дачэснае, будзе крыўдным для тых нашых падпішчыкаў, якія, ня гледзячы ні на што, акуратна аплачываюць падпіску. Ім заплочаныя грошы будуць залічаны на далейшы час — пасьля ўзнаўленьня „Напераду“.

## У гэтым нумары 6 страніц.

## „На раты“.

Шырака ведама польская прыказка: „баты—на раты“. Але ня толькі „баты“ асабліва балючыя, калі раскладаюцца „на раты“: часам ня менш балючымі аказваюцца і—„ласкі на раты“.

Мы ўжо ня раз адзначалі, што прыгавор у справе Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, які засудзіў на доўгалетнюю катаржную турму нашых нацыячальных павадыроў радыкальнага кірунку, выклікаў страшэнна цяжкое пачуцьцё крыўды ў нашых працоўных масах. Пачуцьцё гэтае падзяліла з намі і лепшая, больш чэсная і палітычна мудрэйшая частка польскага грамадзянства. І пачуцьцё гэтае было настолькі натуральным і абаснованым, што ўрэшце і польскі ўрад быў прымушаны зьмяніць сваё ранейшае становішча ў справе Грамады. У выніку гэтага прыпынена адбываньне кары грамадаўскім павадыром Тарашкевічу і Раку Міхайлоўскаму, і яны звольнены з вастрогу; абяцуюць тое-ж зрабіць і з рэштай засуджаных грамадаўцаў.

Добра. Прыемна падышаць вольным паветрам, пабыць сярод сваіх нашым павадыром-мучанікам, якія ўжо праседзілі за кратамі па паўчварта году. Але—што-ж далей? Бо-ж яны—ані сьцятыя, ані павешаныя: пазбаўленыя нязвычайна жорсткім прыгаворам суда грамадзкіх правоў, засуджаныя грамадаўцы, якім сяньня „прыпынена“ адбываньне кары, ня маюць у межах Польскага гаспадраства права на працу. Гэта значыць, што яны ня могуць атрымаць працы ў ніводнай установе, дзе патрэбна зацьверджаньне ўладамі. Яны, усе—культурныя працаўнікі, ня могуць быць і настаўнікамі ў беларускіх школах, для якіх так неабходны запраўдныя беларускія вучыцялі, а не навезеныя з Польшчы, што „паразумеваюцца“ з сваімі беларускімі вучнямі часамі праз... перакладчыка! Яны ня могуць працаваць і на выбарных становішчах у самаўрадах, ня маюць права быць выбранымі ў Сойм—і г. д.

А што-ж—могуць?

Могуць—разам з сваімі сем'ямі—галадаць... „Прыпыненьне“ кары без звароту грамадзкіх праваў стаўляе тых, да каго тасуецца гэтая „ласка“, у зусім немагчымае палажэньне. Бо-ж і чым можа заняцца, дзе знойдзе заробак чалавек, якога заўтра могуць ізноў „вярнуць“ за краты—дзеля далейшага адбываньня кары?

Праўда, орган віленскіх польскіх урадавых дэмакратаў „Kurjer Wileński“ пісаў, што—сьледам за „прыпыненьнем адбываньня кары“—засуджаным грамадаўцам маюць быць дэкрэтам прэзыдэнта Рэспублікі вернены і грамадзкія правы Але — калі-ж гэтае сьвята будзе? Тыдзень ідзе за тыднем, і „ашчасьліўленыя“ грамадаўцы перажываюць цяжкую маральную муку — муку няпэўнасьці заўтрашняга дня, муку людзей, якія ня маюць за што зачапіць рукі.

Пара палажыць канец гэтай муцы! Пара ўрэшце скончыць з гэтай „ласкай на раты“! Хто сказаў „а“, мусіць быць пасьлядавальным і сказаць „б“. Калі ўрад, спыняючы кару грамадаўскім павадыром, сцьвярдзіў, што гэтага вымагае грамадзкае сумленьне і пачуцьцё справядлівасьці, дык і поўную ліквідацыю справы Грамады трэба разглядаць не як акт ласкі—і то яшчэ „на раты“, а як акт направы крыўды, акт справядлівасьці. І акт гэты мусіць быць даведзены да канца.

## Заданьні нашае сялянскае інтэлігенцыі.

Беларуская сялянская інтэлігенцыя—гэта раськіданыя па шэрых вёсках усяе Беларусі, яшчэ ня вельмі чысьленыя адзінкі, ў большай ці меншай меры адукаваныя, сьвядомыя сяляне, пераважна моладзь. Па самых глухіх куткох нашай Бацькаўшчыны гэтыя шэрыя, непрыкметныя барацьбіты, памалу, але няўхільна, з значнымі маральнымі і матэрыяльнымі высілкамі вядуць працу над усьведамленьнем масаў і працуюць на культурна-асьветным груньце.

Ідэя стварэньня Белар. Сял.-Работ. Грамады і арганізацыі ў ёй усіх беларускіх працоўных масаў, як выражэньне ідэалаў і імкненьняў лепшай часткі беларускага грамадзянства, знайшла моцны водгук і гарачае падтрыманьне і з боку сялянскай інтэлігенцыі, дзякуючы якой яна і разьвілася гэтак шпарка і моцна. Магутны ўздым нацыянальна-сацыяльнага ўсьведамленьня і актыўнасьці, які меў месца сярод сялянства Зах. Беларусі ў часы існаваньня Б. С.-Р. Грамады, з разгромам апошняй польскімі ўладамі зусім апаў і блізу занік. З зачыненьнем тысячаў гурткоў Грамады, якія густой, добра зьвязанай сеткай пакрывалі ўсю тэрыторыю Зах. Беларусі і інтэнсыўна й энэргічна працавалі на груньце пераважна сацыяльнага ўсьведамленьня і арганізацыі шырокіх цёмных масаў,—спынілася і занікла ўсялякая праца наагул. Пэсымістычны настрой старэйшай часткі беларускага грамадзянства, нявера ў дасягненьне і зьдзейсненьне сваіх мэтаў і ідэалаў, адбіліся нават і на больш рухлівай сялянскай моладзі. Часовая рэакцыя выразілася ў поўным застою і запуджанасьці сярод сялянства.

Але гэты настрой не здалеў заразіць найбольш паступовую частку беларускага сялянства—вясковую інтэлігенцыю. Ня маючы ўжо ніякай магчымасьці працаваць адкрыта над арганізаваньнем і ўсьведамленьнем сялянства, ня хочучы працаваць падпольна і лучыцца з камуністамі, сялянская інтэлігенцыя знайшла новы грунт дзеля працы,—працы культурна-асьветнай у Т. Б. Школы. Некалькі сотняў гурткоў Т. Б. Ш., народныя дамы, бібліатэкі-чытальні, драматычныя сэкцыі, ў выніку працы якіх—тысячы пастаноўленых спэктакляў, арганізацыя ўласных хораў і музычных сэкцыяў,—усё гэта зьяўляецца найлепшым доказам працавітасьці і энэргіі сялянскай інтэлігенцыі. Праца гэтая вымагала прост надлюдзкіх высілкаў: колькі стаўлялася ей перашкод з боку ўлады і паасобных варожых да беларусаў адзінак, аб гэтым ня трэба й гаварыць! Ды мала гэтага: часта нават сярод самога цёмнага, несьвядомага сялянства спатыкалася поўная пасыўнасьць і незразуменьне, горай таго: яўная варожасьць і насьмешкі! Але ўсе труднасьці і перашкоды не здалелі перамагчы і зламаць запалу да працы!..

Зацятая барацьба за ўплыў над масамі паміж рознымі групамі вярхоў нашага грамадзянства закранула і гэткую, здавалася-б, беспартыйна палітычную ўстанову, як Т. Б. Ш. Лёгічным вынікам гэтай „барацьбы“ зьявілася спыненьне ініцыятывы і актыўнага кіраўніцтва зьверху, ад кіруючых Т. Б. Ш. прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, а гэта ў свой чарод павяло да заніку працы на мястох, на правінцыі.

Раўнуючы да працы гурткоў у 1927—28 г. г., цяпер праца іх зусім нязначная... Яшчэ ў большай меры да гэтага давялі жорсткія рэпрэсіі адміністрацыі, асабліва ў апошнія часы, калі—побач з часовым „завешаньнем“ Галоўнай Управы Т. Б. Ш.—п. п. старосты на мястох ліквідавалі паасобныя гурткі, забараняялі рабіць сабраньні і павятовыя зьезды, масава забіралі літэратуру і тэрорызавалі сяброў...

Мы бачым, што значэньне беларускай сялянскай інтэлігенцыі вельмі вялікае, і што яна ўжо даволі многа зрабіла і робіць у беларускім адраджэнскім руху. Але разам з гэтым беларуская сялянская інтэлігенцыя мусіць уявіць сабе, што, ня гледзячы на ўсялякія перашкоды і труднасьці, трэба і далей працаваць ня спыняючыся, а калі-б нават была перасечана ўсялякая магчымасьць працы ў палітычных ці культурных арганізацыях, дык трэба працаваць паадзіночна і змагацца з усімі варожымі для жыцьця беларускага народу праявамі. Перад беларускай сялянскай інтэлігенцыяй яшчэ адкрытае вялізарнае поле працы. Гэта ня толькі праца над усьведамленьнем, арганізацыяй і культурным разьвіцьцём масаў: мо' найболей увагі трэба зьвярнуць на ўзгадаваньне беларускай моладзі, на падняцьце яе маральнага, духова-ідэйнага роўня; трэба разьвіць у яе актыўнасьць і маральна-грамадзкае пачуцьце; трэба вясьці самую вострую барацьбу з найгоршымі ворагамі сялянскай моладзі—цямнотай, п'янствам і маральным зьдзічэньнем! Бо гэтыя ворагі ўсё болей падточваюць надзею на будучыню беларускага народу—на яго моладзь! Цямнота, злучаная з адсутнасьцю якіх-нябудзь этычных прынцыпаў, і п'янства,—даводзяць гэту моладзь да найгоршае ступені азьвярэласьці і дзікасьці...

І тут трэба памятаць, што ўсе свае імкненьні і лепшыя жаданьні мы можам зьдзейсьніць толькі самі! Беларускую моладзь не ўзгадуюць ні польскія школы, ні культурна-гаспадарчыя арганізацыі, закладаныя палякамі: яны толькі могуць здэнацыяналізаваць і адцягнуць яе ад сацыяльнай барацьбы! Беларуская сялянская інтэлігенцыя мусіць усе сілы прылажыць да ўзгадаваньня сялянскай моладзі, да яе сацыяльнага ўсьведамленьня, павінна сваей працай узьвясьці на шлях змаганьня яшчэ больш чысьленную маладую беларускую інтэлігенцыю!..

Ды трэба адзначыць, што гэтым не абмяжоўваюцца ўсе заданьні працы беларускай сялянскай інтэлігенцыі. Разам з унутранай працай над разьвіцьцём і ўсьведамленьнем масаў і ўзгадаваньнем моладзі, беларуская сялянская інтэлігенцыя павінна сачыць і прыгледацца да ўсіх праяваў і выпадкаў агульна-людзкага жыцьця, мусіць ведаць аб жыцьці свайго народу, крытычна разьбірацца ў-ва усіх клясавых кірунках і ідэйных цячэньнях сярод беларускага грамадзянства, адным словам—працаваць над уласным разьвіцьцём. Дзеля гэтага сялянская інтэлігенцыя павінна падтрымліваць той кірунак і яго прэсу, які ідэйна найбольш адпавядае імкненьням беларускага народу, ды й ня толькі падтрымліваць матэрыяльна, але й духова. Беларуская сялянская інтэлігенцыя, ня кажучы аб матэрыяльным падтрыманьні, павінна супрацоўнічаць у сваей прэсе, павінна „гаварыць сама“ і надаваць прэсе ідэйны кірунак; бо сялянская інтэлігенцыя зьяўляецца беспасрэднай выразіцелькай ідэалаў і жаданьняў усяго беларускага народу, за які да гэтых часаў гаварылі другія! Так сама мусіць яна цясьней лучыцца з лепшай часткай мястовай беларускай інтэлігенцыі на груньце адных ідэалаў і супольнай працы!

Толькі тады, калі ўласнымі рукамі беларускі народ возьмецца да сацыяльна-культурнага будаўніцтва, тады толькі ён зможа скінуць з сабе ярмо буржуазна-капіталістычнага ладу і ісьці да будучыні па шляху, выбраным сваей уласнай воляй!

**Уладзімір Томко.**

Гарадзіская гм., Баранав. пав.

# Хроніка паўстаньня ў Індыі.

+ Пасьля арышту галоўнага павадыра індыйскіх незалежнікаў Ганді, падняць руку на якога доўга ня важылася англійская ўлада, вобыскі і арышты іншых павадыроў і дзеячоў паўстанчага руху пасыпаліся дажджом. Першым чынам арыштаваны быў Аббас Таб, якога Ганді назначыў сваім наступнікам—павадыром усяго руху. Аббас Таб—яшчэ старэйшы, як Ганді, бо-ж мае каля 80 гадоў. Абвінавачаны ў падрыхтоўцы нападу на казённыя саляныя склады, ён засуджаны 14.V на 6 месяцаў турмы. Разам з ім былі арыштаваны 158 бліжэйшых прыхільнікаў Ганді, якія—на чале атраду „ахвотнікаў“—уварваліся ў раён казённых складаў солі ў м. Лярасане. У сутычцы з паліцыяй 16 (?) з іх былі ранены.

+ 14.V у правінцыі Пэнджаб зроблены напад на дом выдатнага генарала індыйскай арміі—англійца Кессэльса. Адказаўшыя стрэламі вартаўнікі аднак адратавалі дом і жыцьце генарала.

+ Пасьля доўгага, зацятага бою з паўстанцамі—места Шаляпур урэшце ўзята ўрадавымі войскамі. Улады абвясьцілі места на ваенным палажэньні, настроілі барыкадаў, наставілі па вуліцах кулямётаў. Пачаліся арышты. Усяго ў баёх—па англійскім весткам—50 забітых і 400 раненых.

+ У Калькуце паліцыя ізноў зрабіла шмат вобыскаў і арыштаў. Пасьля вобыску ў гмаху галоўнай управы кангрэсу індыйскіх незалежнікаў-нацыяналістаў арыштавалі 80 выдатных дзеячоў партыі. Яны ўсе вінавацяцца ў „падбураньні да бандытызму (?) і забойстваў“ (?)...

+ З Бамбэю даносяць, што ў Бэльгэме збунтаваліся 2 роты мясцовага палка індыйскіх войскаў. На „усьмірэньне“ іх высланы атрад англійскіх войскаў.

+ У Бамбэі, як і іншых местах, нацыяналісты раскідаюць адозвы, заклікаючы да „належнага адказу на крывавыя здарэньні ў Шаляпуры“...

+ У Мадрасе арыштавана і засуджана на год турмы жонка нейкага індускага доктара—ведамая дзеячка „гандізму“. Гэта першая жанчына—ахвяра незалежніцкага руху.

+ Пасьля арышту Аббас Таб'і павадырства ўсім рухам узяла на сябе—па загаду апошняга—кабета, пані Сароіні Найдір. Яна стала на чале баявога атраду, які мае мэтай захапіць казённы склад солі ў Дафасэне. Кабета гэта заявіла журналістам, што яе лёзунгам ёсьць—„сьмерць—або перамога“...

+ Найбольш небясьпечныя для англійскай улады здарэньні насьпяваюць на паўночнай граніцы Індыі—пабліз Пэшавару, у якім разыграліся ўжо цяжкія баі, і англійскія сілы былі сьпярша значна пабіты. Тутэйшыя напалову вольныя, не прызнаючыя ніякае ўлады над сабой горныя плямёны, суседнія з англійскай Індыяй, кінуліся на помач паўстаўшым проці англійцаў індусам і зачынілі горныя праходы, што лучаць Індыю з Афганістанам. Англійскія ўлады выслалі да князёў гэтых плямёнаў ультыматум, трэбуючы адыходу ад Пэшавару ды ачысткі шляхоў. Аднак тыя навет вухам ня кранулі. Тады англійцы выслалі ў горы эскадру ваенных самалётаў, якія павінны бомбамі настрашыць горцаў. Але пакуль што скутку і гэтай меры ня чуваць.

Апошнія весткі кажуць, што здарэньні пад Пэшаварам—значна паважнейшыя, як здавалася спачатку. Заняцьце ўсяе ваколіцы пад Пэшаварам англійскімі войскамі выклікана было запраўды-ж згуртаванай на граніцы з Афганістанам вельмі значнай арміяй горных плямёнаў, якія маюць даскаралае азбраеньне. Гэтая армія мела мэтай захапіць Пэшавар і далей ісьці ў глыб краю. Быццам у акцыі гэтай сцьверджана рука камуністаў.

+ З усяго вялізарнага краю розныя ўстановы ды асобы шлюць да віцэ-караля і ў газэты лісты з пратэстамі проці арышту Ганді. Паміж іншымі, гандлёвая палата ў Бамбэі ў сваей заяве віцэ-каралю піша, што ў хуткім часе ўрад сам зразумее, якую памылку ён зрабіў, арыштаваўшы Ганді.

+ Агенцтва Рэйтэра (англійск.) даносіць, што ў Шаляпуры ў часе паўстаньня 3 паліцыянты былі абліты бэнзінам і спалены, як „жывыя паходні“.

+ У Лёндан прыбыло некалькі асоб з Індыі, якія цьвердзяць, што газэтныя весткі ня кажуць усей праўды аб палажэньні ў краі: не дазваляе гэтага пануючая строгая цэнзура. Узапраўднасьці палажэньне вельмі крытычнае, лічбы забітых і раненых у сутычках у некалькі разоў большыя, як падае англійская прэса.

+ Англійскі ўрад заявіў, што ўсе апошнія здарэньні ў Індыі ня зьменяць яго пастановы аб скліканьні ў кастрычніку „канстытуцыйнай камісіі“, якая мае апрацаваць новую канстытуцыю для Індыі. Віцэ-кароль—на падставе гэтай пастановы—выдаў адозву, да якой далучыў сваю перапіску з прэм'ерам Мак-Дональдам. Але, як кажа сама англійская прэса, гэтая адозва ня выклікала ніякага зацікаўленьня ў насяленьні Індыі. Партыя нацыянал-незалежнікаў прынцыпова настроена проці гэтай камісіі, а пасьля апошніх здарэньняў навет ужо і індускія лібэралы, якія да таго былі прыхільныя да паразуменьня з англійцамі, цяпер пачынаюць схіляцца да акцыі нацыяналістаў, байкатуючых англійскі ўрад. Толькі невялічкая частка індыйскай вышэйшай інтэлігенцыі (як, напры-

# Барацьба з беларускасьцяй у БССР.

Хаця афіцыяльныя пастановы ў Савецкай Беларусі ўрачыста гавораць аб неабходнасьці правясьці беларусызацыю школ і адміністрацыі „да канца“ дый яшчэ „з бальшавіцкай рашучасьцю“,—на дзеле ў гэтай галіне мы бачым упартую барацьбу маскоўшчыны з кожнай спробай зьдзейсьніць тое, што „напісана на паперы“.

„З беларусызацыяй—пісала „Сав. Бел.“ у № 61 з 15 сакавіка с. г.—ня ўсюды добра абстаіць“ (так і напісана: „абстаіць“!). „Гэта пацьвярджае і як матар'ял з Гомельшчыны, так і з іншых месц БССР. Назіраюцца з боку некаторай часткі супрацоўнікаў савецкага апарату фармальныя адносіны і пасыўнае супраціўленьне беларусізацыі. Есьць шмат выпадкаў, калі адказныя працоўнікі установаў ня ведаюць беларускай мовы, ня гледзячы на тое, што ўсе тэрміны, якія даваліся ім для аўладаньня беларускай мовай, ужо даўно прайшлі.“

А вось прыклады яўнага сабатажу ў адносінах да беларусызацыі—у гомельскім „Беларускім“ Пэдагагічным Тэхнікуме, дзе ўзгадоўваюцца „беларускія“ на-настаўнікі:

„У глухім калідорчыку, дзе нікелі ня бывае сьвятла, вісіць лёзунг: „беларусызацыю прасунуць у масы“. Вісіць лёзунг, ніхто яго ня бачыць, ня чытае, вільгаць ад крану, на якім вісіць лёзунг, пакрывае плесеньню літары. Так пакрыта плесеньню ўся амаль справа беларусізацыі“.

Гэтак піша нейкі „селькор Я“. І ня дзіва, што гэтак дзеецца. Бо-ж паспрабаваў нейкі вучыцель, як відаць — беларус, прымушаць будучых „беларускіх“ настаўнікаў вучыцца беларускіх вершаў, якія ў кожнага нашага поэты выяўляюць гарачую любоў да Бацькаўшчыны,—і той самы „селькор Я.“ зараз піша данос на вучыцеля:

„Настаўнік Крукоўскі прымушае студэнтаў вучыць вершаў, якія адбіваюць нацыянал-дэмакратычную ідэалёгію“...

Якія-ж гэта будуць „беларускія“ настаўнікі, каторых гадуе „Беларускі“ Пэдтэхнікум у Гомелі? — Навет рэдакцыя „ачышчанае“ „Сав. Бел.“ з жахам піша: „Каго мы рыхтуем у якасьці будучых чырвоных кадраў? Хто яны?“

Праўда, „Сав. Бел.“ пужаецца ня гэтулькі варожасьці да беларушчыны гэных „чырвоных кадраў“, колькі яўнага маскоўскага чорнасоценства, якое цьвіце ў савецкіх школах з „пралетарскімі студэнтамі“. Вось якія адказы на анкету даюць гэныя „чырвоныя кадры“, гадаваныя Сталінам:

„Очень недолюбливаю евреев, хотя здесь их большинство“...

„Бей жидов, спасай Россию! Беларусизацию к чорту!“

„Считаю беларусизацию глупой, идиотской комедией. О нацполитике вообще судить не берусь“.

„Ужасно не люблю беларуссизацию и считаю это лишней затеей, на каторую затрачиваются средства и энергия. В отношении других национальностей, кроме украинцев, считаю необходимой нацполитику“.

„Па майму погляду, лепш зьнішчыць беларусізацыю“...

Вось „букет“ запраўдных чорнасоценскіх „красачак“, якія буйна расьцвілі ад часу адкрытага паходу Сталіна і ягоных „молодцов“ проці беларускага адраджэнскага руху і павадыроў яго. Маскоўскае чорнасоценства падняло высака галаву: „Наша взяла“!

Закончы агляд матэрыялу, узятага з аднаго толькі памянёнага вышэй нумару Сав. Бел.“, гэткімі дзьвюма карэспандэнцыямі.

У аднэй — пад загалоўкам „За аўладаньне беларускай мовай“ (з Клімаўшчыны) нейкі Янка Бобрык жаліцца на тое, што настаўнікі вельмі блага адносяцца да беларускае мовы. Часта выкладаюць чыста парасейску. А на адной з канфэрэнцый настаўнікаў Клімаўшчыны аўтара вельмі зацікавіў нейкі вельмі „шляхэтны дзядзька“, які „ўвесь час і ў прыватных гутарках, і ў афіцыяльных выступленьнях сыпаў чыстай, гатунковай расейскай мовай“. Карэспандэнт падумаў, што гэта нейкі „госьць“ сярод беларусаў. Ды не: гэта быў... настаўнік-матэматык з Раднянскай „беларускай“ сямігодкі!

Другая карэспандэнцыя мае красамоўны загаловак „Я не панимаю, гавори на русском языке“ і прыслана з Крупскага раёну Аршаншчыны. У ёй даслоўна чытаем: Вучыцель фізычнага выхаваньня Пронька, у сямігодцы ў мястэчку Бабры, дзе дзеці ўсе беларускія, „проста прымушае вучняў гаварыць выключна ў расейскай мове. Бывала вельмі шмат выпадкаў, калі Пронька выклікаў вучня і патрабаваў, каб вучань адказаў лекцыйнае заданьне ў расейскай мове. Калі вучань пачынае гаварыць пабеларуску, Пронька зразу абрывае вучня і катэгарычна заяўляе: „Я не понимаю, говори на русском языке“. Мала гэтага, Пронька насьмяхаецца над беларускай мовай, ён зьдзекуецца над тымі, хто гаворыць пабеларуску“.

Ня дзіва: раз „начальства“ загадала біць па беларусах, дык і ўсякая „мелкая сошка“ брыкаецца. А калі беларусы пратэстуюць, дык яны — „фашысты“ і „здраднікі“...

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

# 45 БЕЛАРУСЫ! 45

**Грамадой ідзеце на выбары 25 мая і галасуйце за сьпісак Беларускага Сялянска-Работніцкага блёку № 45**

ахвоты пажарніку горай буяніць. Але, дзякуючы прыхільнасьці публікі, спэктакль сарваць не ўдалося. Як убачылі асобы, што былі сабраўшыся паглядзець і паслухаць роднай песьні, што ўсё гэта робіцца, каб сарваць спэктакль, дык чалавек з 4-х хвацілі ўзлаванага пажарніка, занесьлі дамоў і палажылі спаць. Пасьля гэтага настаў ужо супакой і пачалі гуляць.

Цікава, чаму гэта паліцыянт кожны месяц не баіцца руку падстаўляць пад грошы (пэнсыю атрымаць), а за парадкам глядзець—дык гэта не яго дзела?

Як пазьней даведаліся, вінаватым і загаворшчыкам зрыву спэктаклю быў крамнік Васіль Гіль, якога ў вёсцы завуць бясплатным сышчыкам; вось ён, каб дагадзіць „паном", хацеў зрабіць гэту работу, карыстаючыся адыйшоўшым ад розуму, п'яным пажарнікам.

Гэты самы крамнік Гіль паставіў крамку каля самай царквы й школы ды шкодзіць як царкве, канкуруючы ў прадажы сьвечак і інш., так і культурным установам, як гэта было ўвосень: людзі хацелі падаць школьныя дэклярацыі, каб адчыніць чыста беларускую школу ў Гародзьках, дык ён тыльгаў па вёсцы (бо ён кульгавы) і ўсё страшыў людзей, кажучы, што за гэту работу пахне Вялейкай, дый вучыцелю трэба будзе гарцы даваць, калі будзем у чыстай сваёй мове дзяцей вучыць.

Ганьба й сорам такім асобам!

**Глядзельнік мясцовы.**

### З жыцьця самаўраду.

(Жухавіцкае вол., Стаўпецкага пав.).

Многа гаварылася аб вёсцы Хлюпічах і будзе гаварыцца, бо-ж яна ў адраджэнскім руху прымае ўчасьце здаўна і не складае рук, калі трэба бараніцца супроць несправядлівасьці.

Вось ужо немалы час прайшоў, як адбыліся перавыбары солтысаў, і нашы сяляне пратэставалі супроць пагвалчэньня сходу: бо-ж 65 галасавалі за новага солтыса супроць 15 галасоў. Пісалі пратэст да старасты, Міністэрства Справядлівасьці—дык ужо мінае чацьвёрты месяц, а нам няма жаднага адказу, ды солтыс зьдзекуецца над намі, як хоча. А папробуй акажыся,—„зараз—кажа—улада будзе ведаць, што ты бунтаўшчык!"

Прышло плаціць нам разам з падаткамі некіх 90 злот.; калі кожны пытаецца: „за што плаціць, на якую мэту", дык солтыс Крайнік Шут кажа, што гэта за „Гурткі"... Гэтым хоча запалохаць нас. Ды няўдасца і дарма! **„Гром".**

### Папраўка.

Паважаныя браточкі!

Падаўшы ў паважаную намі газэту „Наперад" карэспандэнцыю аб тым, як частавалі яйкамі нашы сяляне жыдоўска-беларускую буржуазную 18-ку ў Лебедзеве, я трохі памыліўся. Глядзеў я на гэта здалёку і ня відзеў, што на ганку быў Багдановіч і Каруза, а з імі не Ярэміч, а нейкі ўкраінец Ляшчынскі, каторы вельмі падобны да Ярэміча: такіж-ж пузаты. Я і палічыў яго за Ярэміча. Як я потым даведаўся, дык гэта гэны ўкраінец абціраў лоб ад яйка і пэўне дзясятаму заказа мяшацца ў нашыя справы, прыяжджаць да нас ды хваліць паляка Більдзюкевіча, а такжа намаўляць галасаваць за яго да Сойму 25 мая.

Браты! усе, як адзін, галасуйма за свой № 45 і за сваіх барацьбітаў за долю нашага гаротнага народу! **Лебядзевец.**



## Бібліяграфія

„Школа і Жыцьцё". Беларускі літэратурна-грамадзкі і пэдагогічны месячнік Таварыства Беларускіх вучыцялёў у Латвіі. № 1. Лыты 1930. Рыга.

Абвешчаны яшчэ на лістапад мінулага году выхад гэтае часопісі прыпазьніўся, і мы толькі цяпер атрымалі першы нумар яе. Журнал на 72 страніцах дае даволі align="" разнародны матэрыял, — як з галіны пэдагогікі (М. Дзямідаў—Прынцыпы працоўнае школы; В. Вальтэр — аб прафэсіянальных школах), так і з галіны гістарычна-юрыдычнае (А. Луцкевіч — Статут Вял. Кн. Літоўскага на фоне эволюцыі соцыяльных адносінаў у Беларусі), і з бячугачага жыцьця (стацьці дэпутатата В. Пігулеўскага і дырэктара Дзьвінскае Беларускае Гімназіі С. Сахарава, пасьвячоныя ведамаму прыхільніку беларусаў, нядаўна памершаму павадыру латышскага адраджэньня, Яну Райнісу, стацьця В. Пігулеўскага: Беларускае пытаньне ў латвійскім Сойме), і нядаўна мінулага (ст. пр. Б. Брэжго: Археолёгічны Інстытут на Беларусі), і ўрэшчэ багатая хроніка беларускага культурна-нацыянальнага жыцьця ў Латвіі (Справаздача аб чыннасьці беларускага асьветнага т-ва „Беларуская хата", Дні Беларускае Культуры ў Латвіі і г. д.). Заканчваецца нумар бібліяграфічнай заметкай д-ра М. Ільяшэвіча (з Вільні) і рэдакцыйным зваротам.

Пачатак зроблены; трэба толькі, каб беларуская інтэлігенцыя ня толькі з Латвіі, але і зпад Польшчы прыняла больш гарачае ўчасьце ў журнале, як ужо далі гэтаму добры прыклад грамадзяне Ільляшэвіч і Луцкевіч. Супольнымі сіламі можна будзе паставіць гэты журнал на такую вышыню, каб ён здаволіваў патрэбы беларускага грамадзянства і ў Латвіі, і ў Заходняй Беларусі, у якой падобнага журналу, на жаль, няма.

**Н.**





Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.** Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.